Народ бароніць свае законныя правы, сваю годнасць!

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
***Якуб КОЛАС***

**№ 66 (4524)**

21 жніўня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СТОП-КАДР




**Рабочы Мінскага трактарнага завода пратэстуе супраць фальсіфікацыі волевыяўлення беларускага народа падчас прэзідэнцкіх выбараў.**

ПАЗІЦЫЯ

## «Людзей нельга паліваць вадой і закідваць гранатамі толькі за тое, што ў іх ёсць сваё меркаванне»



*Журналіст дзяржаўнага радыё Аляксандр Шустэр патлумачыў «Народнай Волі» прычыну свайго звальнення.*

*Толькі за мінулы тыдзень з **Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё** звольнілася пяць супрацоўнікаў. Днямі на стол кіраўніцтва леглі яшчэ некалькі заяў. Адным з першых, хто прыняў прынцыповае рашэнне, быў **Аляксандр Шустэр**. Ён вёў знакаміты «Радыёфакт», чытаў у эфіры навіны, таленавіта асвятляў найбуйнейшыя падзеі ў краіне і працаваў у прэзідэнцкім пуле.*

– Я не хацеў рабіць са свайго сыходу нейкую піяр-акцыю, – *прызнаецца Аляксандр.*

*Ды і кіраўніцтва папрасіла яго не даваць ніякіх каментарыяў, пакуль фармальна ён усё яшчэ будзе лічыцца супрацоўнікам Белтэлерадыёкампаніі.*

– І ўсё роўна людзі даведаліся, пісалі, тэлефанавалі. Пыталіся, ці патрэбна нейкая фінансавая дапамога. Нават пажыць у іх прапаноўвалі, – *здзіўляецца Аляксандр.*

*Ноч з 9 на 10 жніўня ён правёў на мінскіх вуліцах. У гушчу трагічных падзей не трапіў хіба што выпадкова.*

– Калі мы ішлі па Машэрава, нейкія малойчыкі падазрона настойліва пачалі крычаць людзям, што трэба вяртацца да Стэлы. Натоўп падзяліўся, але мы з сябрамі вырашылі ўсё ж рухацца да праспекта Незалежнасці.

*А літаральна праз некалькі гадзін Саша паехаў у камандзіроўку ў Пухавіцкі раён. Гэта была рабочая паездка прэзідэнта ў Біятэхналагічную карпарацыю:*

– Калі б усё абмежавалася толькі аглядам, я, можа, і застаўся б на радыё. Але там прысутнічаў амбасадар Кітая, які з захапленнем – падкрэслю, з захапленнем – казаў пра перамогу на выбарах, хаця ўсе вакол ужо ведалі, што была ноч. Лукашэнка, дарэчы, тады яму адказаў, што перамагчы мала. Сваю перамогу трэба абараніць. Гэтыя словы, па-мойму, нідзе так і не прагучалі. Сюжэт тады я зрабіў максімальна нейтральным, а ўсе палітычныя моманты перaканаў кіраўніцтва даць асобным сінхронам.

*Аляксандр шчыра хацеў дапрацаваць да канца тыдня – каб не ламаць графік і не падстаўляць калектыў, – але пасля ранішняга эфіру 12 жніўня, узгадвае журналіст, кагнітыўны дысананс дасягнуў крытычнай адзнакі.*

– Вішанькай на торце ў «Радыёфакце» стаў сюжэт пра тое, як трэба паводзіць сябе ў спякоту. Рэкамендацыі медыкаў, вядома, вельмі актуальныя, але не ў той дзень, калі тэмпература панізілася да 15 градусаў. І ты сядзіш у гэтай паралельнай рэальнасці і адчуваеш сябе героем нейкіх «Сімпсанаў»!

**– У той жа дзень звольнілася яшчэ адна вядучая навін – Таццяна Філіпчанка.**

– Мы зрабілі гэта сінхронна. Ну, таму што вельмі цяжка казаць у эфіры пра тое, што на вуліцах былі наркаманы, беспрацоўныя і наёмныя. Я не ведаю, на каго гэта разлічана. Магчыма, на чатыры з паловай тысячы падпісчыкаў тэлеграм-канала ATN_news? Штука ж у тым, што ты заўсёды думаеш: я змагу падаваць усё калі не ангажавана, то хаця б нейтральна. І мне здавалася, што гэта атрымлівалася. Але пасля падзей у першыя дні пасля выбараў праяўляць нейкую нейтральнасць было немагчыма. Таму што людзей нельга паліваць вадой, закідваць гранатамі і катаваць толькі за тое, што ў іх ёсць сваё меркаванне.

**– Вы кажаце пра нейтральнасць… Скажыце, у прэс-службы прэзідэнта былі да журналістаў пула, скажам так, прынцыповыя пажаданні?**

– Амаль пасля кожнай паездкі даваліся ўказанні, у якім святле мы мусім усё падаваць. Часам казалі, што, напрыклад, гэты кавалак у эфір мы не пускаем. Але астатняе на тваім сумленні.

**– Ёсць яшчэ цэнзура і на радыёстанцыі?**

– Я нават сказаў бы – *самацэнзура*, вельмі жорсткая. Самы свежы прыклад (таксама, дарэчы, адна з апошніх крапляў): у навінах мне не дазволілі агучыць інфармацыю з тэлеграм-канала МУС пра тое, што лёсам затрыманых можна пацікавіцца па нумары 102. Ну што тут такога? Тым больш што афіцыйная заява.

*Зрэшты, з кіраўніцтвам канала журналіст застаўся ў нармальных адносінах. Аказалася, што самым складаным было зайсці ў кабінет і сказаць пра сваё рашэнне.*

– А калегі па-рознаму паставіліся. Некаторыя сказалі, што я здраднік, і перасталі вітацца. Затое плакалі і абдымалі нават тыя, ад каго я гэтага менш за ўсё чакаў.

**– Саша, вы 10 гадоў адпрацавалі на Беларускім радыё. Што сэрца?**

– Пакуль што не паспеў нічога зразумець. Але працаваць мне вельмі падабалася, было цікава. Я пабываў у многіх гарадах, на многіх прадпрыемствах, пазнаёміўся з дзясяткамі цікавых людзей. Я працаваў на беларускай мове! Першы нацыянальны ў гэтым сэнсе ўнікальная з'ява. Як далей? Спадзяюся, што за два-тры месяцы нешта знайду. У дзень звальнення не мог не думаць пра тое, што здымаю кватэру і не ведаю, як буду за яе плаціць. Але можна і грузчыкам часова папрацаваць у суседняй краме.

*У панядзелак супрацоўнікі Беларускага радыё падтрымалі агульнанацыянальную забастоўку. На працу не выйшлі вядучыя «Сталіцы», Міжнароднага радыё «Беларусь», а таксама гукарэжысёры, якія абслугоўваюць усе станцыі Беларускага радыё. Яны патрабавалі сумленных выбараў і аб'ектыўнага асвятлення падзей у краіне. Днямі стала вядома, што ў знак пратэсту сышоў амаль увесь калектыў Радыё «Сталіца» – у тым ліку кіраўніцтва радыёстанцыі.*

**Марыя КІРКЕВІЧ.**

СКАЗАНО!

## Александр ЛУКАШЕНКО:
## – По-цивильному состоялись выборы. Не могут быть фальсифицированы 80 процентов.

*(Во время общения с работниками Минского завода колесных тягачей.)*

Да, конечно, не все 80 процентов голосов были сфальсифицированы. А если 30 процентов? При этом не хватает одного голоса, чтобы одержать победу. Если на этот один голос у соперника оказывается больше – значит, он на вершине пирамиды, а ты в аутсайдерах.

Да не нужно говорить о 80 процентах сфальсифицированных голосов! Пусть таких при оперативном пересчете (а не после всем известной «зачистки» или вообще сожжения части бюллетеней) оказалось бы всего 31–32 процента, то и в этом случае как минимум потребовался бы второй тур голосования. И кто знает, может, А.Лукашенко и взял бы верх над своим соперником. Но на этот шаг нужно было пойти. Не пошел.

Но произошло то, что произошло. Ермошина назвала цифру 80,1 процента, мол, столько голосов набрал 26 лет стоящий у руля государства Александр Лукашенко – и страна забурлила. Власть приучила белорусов ко лжи, но с такой нахальной ложью народ не смирился. И, похоже, не смирится до тех пор, пока в Беларуси не пройдут нормальные, демократические выборы. Понятно, уже без А.Лукашенко.

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

## Президенту Российской Федерации Путину В.В.

Уважаемый Владимир Владимирович!

В июле 2001 года я, как единый кандидат в президенты Республики Беларусь от широкой гражданской коалиции, обращался к Вам в связи с исчезновением известных белорусских политических и общественных деятелей. К письму были приложены копии документов, подтверждающих причастность высокопоставленных чиновников и руководителей силовых структур. Кстати, это преступление до сих не расследовано.

Прошло двадцать лет. Вынужден констатировать: сущность правящего режима не изменилась. Мое обращение к Вам вызвано крайне обострившейся ситуацией в стране. Аресты, преследования оппонентов власти, грубая фальсификация итогов прошедших выборов президента вызвали справедливое возмущение большинства граждан, мирные массовые протесты и забастовки. Органы власти применили чрезвычайно жестокие меры их подавления. Многие несогласные с результатами выборов были травмированы, пропали без вести. Уже пять человек скончались. Президент же цинично объясняет происходящее происками неких «врагов», в том числе из России. Заявляет, что личную власть будет удерживать любой ценой. Широко используется также дезинформация населения о якобы негативном отношении протестующих к сотрудничеству наших стран.

Граждане протестуют против узурпации власти Александром Лукашенко. Использование ими национальных символов обусловлено стремлением сохранить и свое достоинство, и суверенитет Беларуси. В настоящий момент, чтобы не допустить дальнейшей эскалации насилия и кровопролития, важно всё решать мирным способом.

Прошу Вас, президента государства, являющегося постоянным членом Совета Безопасности ООН, использовать свои авторитет и влияние в восстановлении законности и общественного согласия, а именно:

способствовать освобождению всех политических заключенных, в том числе экс-главы «Белгазпромбанка» В.Д.Бабарико, а также недопущению насилия в отношении мирно протестующих;

поддержать обоснованные «Уходи», то есть требования об отставке Александра Лукашенко с поста президента в соответствии со ст.87 Конституции Республики Беларусь и передаче его полномочий в период премьер-министру согласно ст.89;

проведение новых демократических выборов с измененным составом Центральной избирательной комиссии на основе международных стандартов, принятых ОБСЕ.

Скорейшее разрешение жизненно важной проблемы несомненно поспособствовало бы развитию добрососедских дружественных отношений наших государств и народов.

С надеждой на понимание –

**Владимир ГОНЧАРИК.**

ТРАГЕДЫЯ

## Загадкавая смерць

*Жыхары Ваўкавыска нясуць кветкі да ваенна-гістарычнага музея, дзе працаваў дырэктарам **Канстанцін Шышмакоў**, які адмовіўся падпісваць сфальсіфікаваны выніковы пратакол на сваім выбарчым участку і цела якога 18 жніўня знайшлі на тэрыторыі Мастоўскага раёна.*

### «Гэта нагадвала суіцыд»

Паводле афіцыйнай інфармацыі, распаўсюджанай Следчым камітэтам па Гродзенскай вобласці, смерць мужчыны не носіць крымінальнага характару.

Цела Канстанціна Шышмакова было знойдзена валанцёрамі пошукава-выратавальнага атрада "Анёл" побач з вёскай Левыя Масты Мастоўскага раёна.



**Крысціна Крук**, якая ўзначальвала групу з дзесяці чалавек, распавяла "Народнай Волі", што яны прыбылі ў Левыя Масты па атрыманай арыенціроўцы. Напачатку даволі хутка быў знойдзены аўтамабіль Шышмакова – практычна на беразе Нёмана.

"*Далейшы пошук зацягнуўся, бо была дапушчана памылка: мы напачатку палічылі, што цела знаходзіцца ў вадзе,* – згадвае валанцёрка. – *Мы падымалі беспілотны апарат, спрабавалі высвятліць, што ўсё ж там знаходзіцца, але нам так і не ўдалося больш дакладна разгледзець аб'ект. І толькі пасля таго, як прыбылі ратавальныя службы, высвятлілася, што ў вадзе быў папросту іншародны прадмет*".

Пошук працягваўся, і прыблізна пасля 15 гадзін у лесапаласе метрах у 500 ад аўтамабіля было знойдзена цела Канстанціна Шышмакова.

"*На нашу думку, з таго, што мы пабачылі, гэта нагадвала суіцыд,* – кажа Крысціна Крук і дадае: – *Мы, зразумела, не крыміналісты, а займаемся толькі пошукам людзей, а таму варта давяраць той інфармацыі, якую распаўсюдзіў Следчы камітэт*".

Дырэктар Ваўкавыскага музея быў адным з двух членаў выбарчай камісіі на ўчастку ў школе №2 Ваўкавыска, які адмовіўся падпісаць сфальсіфікаваны пратакол падліку галасоў. На наступны тыдзень пасля галасавання ён быў у адпачынку, а 15 жніўня выйшаў на працу. У той жа дзень ён патэлефанаваў жонцы каля 17.00 і сказаў: "*Я тут працаваць больш не буду, еду дамоў*".

Але дадому малады чалавек так і не прыехаў.

### «Ён быў прыстойны чалавек»

У музеі, дзе працаваў Шышмакоў, усе моцна ўражаны, размаўляць з журналістам папросту баяцца. Адзінае, што сказалі людзі: "Ён быў прыстойны чалавек". Паводле слоў адной з супрацоўніц, блізкіх сяброў у яго ў Ваўкавыску не было, паколькі сам ён родам з Брэсцкай вобласці. І, маўляў, увесь вольны час займаўся сям'ёй, у іх маленькая дачушка, якой толькі тры годзікі. Вельмі любіў рыбалку і часта разам з жонкай і дачушкай ездзіў у Мастоўскі раён на Нёман, дзе і лавіў рыбу.

У Ваўкавыску на сёння гэта адна з тэм, якія найбольш абмяркоўваюцца. 18 жніўня ўвечары, калі людзі сабраліся на плошчу ў знак салідарнасці з забастоўкамі ў краіне, да ваенна-гістарычнага музея, дзе дырэктарам быў Канстанцін Шышмакоў, аднеслі кветкі.

Усе чакаюць адказаў на пытанні, як і чаму загінуў Канстанцін Шышмакоў і ці звязана гэта нейкім чыным з тым, што ён адмовіўся падпісваць сфальсіфікаваны пратакол галасавання.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЗАЯВА

## Жыццё Паўла Латушкі пад пагрозай

Мы добра ведаем кар'ернага дыпламата, былога міністра культуры і дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, які яшчэ студэнтам уступіў у шэрагі ТБМ.

Пасля таго як П.Латушка разам з калектывам тэатра выказаў свой пратэст супраць проціпраўных дзеянняў беларускай улады, у выніку якіх былі арыштаваны тысячы мірных грамадзян Беларусі, прычым значная частка з іх была зверскі збітая, а некаторыя загінулі ці зніклі без звестак, ён быў звольнены з пасады дырэктара тэатра. П.Латушка ўвайшоў у склад Каардынацыйнай рады па трансферы ўлады пасля выбараў 9 жніўня 2020 года. Яму пачалі пагражаць, патрабаваць, каб ён з'ехаў з Беларусі, і запэцкалі чырвонай фарбай яго дом і гараж.

Мы добра памятаем трагічны лёс віцэ-прэм'ера ўрада Беларусі Віктара Ганчара, міністраў Юрыя Захаранкі, Міхаіла Марыніча, Аляксандра Казуліна, Васіля Лявонава і іншых вядомых людзей, якія выказалі сваю нязгоду з палітыкай сённяшняй улады. Таму мы заклікаем усіх сумленных грамадзян Беларусі выказаць сваю падтрымку Паўлу Латушку і накіраваць свой пратэст супраць яго пераследу ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь.

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы.**

МУДРЫЕ МЫСЛИ



***Если государь нарушает закон, то народ получает право на восстание.***

*Джон ЛОКК, философ.*

СКАНДАЛ

# Хто супыніць дзікае паляванне караля Страху?

*Адкрытая размова са старшынёй выбарчай камісіі на ўчастку №25 у Віцебску Сяргеем ПІТАЛЕНКАМ аб тым, як яму і яго сябрам выкручваў рукі старшыня райвыканкама Сяргей СТАШЭЎСКІ*



Можна ўявіць, што сёння ў душы Сяргея Піталенкі…

Звычайная гарадская школа на праспекце Фрунзе ў Віцебску. У доўгіх і нязвыкла пустых калідорах адчувальна пахне свежапафарбаваная падлога – хутка 1 верасня, пачатак новага навучальнага года. Пра мінулыя выбары вонкава ўжо нішто не нагадвае. А якраз тут, у СШ №44, месціліся адразу два выбарчыя ўчасткі, на адным з якіх выніковы пратакол з падлікам галасоў па катэгарычным патрабаванні кіраўніка Кастрычніцкага раёна горада Віцебска **Сяргея Сташэўскага** быў сфальсіфікаваны. Фальсіфікацыю прыхаваць не ўдалося – дыктафонны запіс шырока разышоўся ў сацыяльных сетках, яго расшыфроўка была апублікавана і на старонках "Народнай Волі" (нумар за 14 жніўня).

І вось, каб пачуць інфармацыю з першых вуснаў, я ўваходжу ў кабінет дырэктара школы **Сяргея ПІТАЛЕНКІ**, які 9 жніўня на адным з участкаў узначальваў выбарчую камісію. Пра сустрэчу і падрабязную гутарку з ім на дыктафон мы дамаўляліся загадзя. Але нечакана Сяргей Уладзіміравіч – відавочна ўстрывожаны – пачынае нашу размову з… прабачэнняў. Аказваецца, за паўгадзіны да нашай сустрэчы яму патэлефанавалі і вельмі настойліва парэкамендавалі ніякага інтэрв'ю "Народнай Волі" не даваць. Адкуль і хто патэлефанаваў – дырэктар патлумачыць не захацеў.

Наступныя хвілін пятнаццаць мы міла, як аднадумцы, паразмаўлялі пра сумленне і грамадзянскі абавязак – ён, гаспадар кабінета, покуць якога займаў вялікі дзяржаўны сцяг, і я, хоць і званы, але раптам непажаданы сталічны госць, які разумеў, што ў чужой бажніцы свечкі папраўляць – справа амаль безнадзейная.

Сяргей Піталенка мог выставіць мяне за дзверы. Але не выставіў. Мог замкнуць свой рот на замок, як яму і параілі. Але не зрабіў гэтага. Мог тэрмінова з'ехаць па дырэктарскіх справах. Але ўсё ж застаўся на сваім працоўным месцы. І, нервова пахадзіўшы па кабінеце, нарэшце дазволіў уключыць дыктафон, папярэдзіўшы, што наўрад ці зможа адказаць на ўсе мае пытанні.

**– Сяргей Уладзіміравіч, прызнацца, спачатку я хацеў сустрэцца з кіраўніком Кастрычніцкага раёна Сяргеем Сташэўскім, але пасля 9 жніўня ён тэрмінова сышоў у адпачынак, яго тэлефоны не адказваюць. Як выглядае, ён проста схаваўся. Таму вымушаны ўсе свае пытанні адрасаваць вам – як непасрэднаму ўдзельніку таго пасяджэння, на якім прадстаўнік улады прымусіў вас і вашых калег па выбарчай камісіі перапісаць выніковы пратакол. Ці можаце вы назваць лічбы з першага, праўдзівага пратакола, якія не задаволілі ўладную вертыкаль?**

– Перавагу атрымаў чацвёрты кандыдат (*Святлана Ціханоўская* – ***М.С.***) – з розніцай амаль у два разы. Зразумела, перад кім…

**– Разам з дыктафонным запісам у інтэрнэце выстаўлена не зусім якасная копія пратакола. Там наступныя лічбы: за Ціханоўскую – 672 галасы, за Лукашэнку – 364, за Чэрачня – 48, за Дзмітрыева – 28, за Канапацкую – 12 галасоў. Гэта адпавядае праўдзе?**

– Я не магу адказаць на гэта пытанне.

**– З запісу вынікае, што члены выбарчай камісіі і ўгаворвалі Сташэўскага, і прасілі, і нагадвалі яму пра адказнасць. Не падзейнічала. Чыноўнік проста выкручваў вам рукі. Як вы лічыце, чаму ён паводзіў сябе так нахабна?**

– Відаць, ён выконваў сваю работу.

**– Дыктафонны запіс быў зроблены з вашага ведама?**

– Не. Пра запіс я абсалютна нічога не ведаў – пра гэта я ўжо неаднойчы гаварыў. І, шчыра кажучы, на пачатку, калі ён з'явіўся ў інтэрнэце, мне было няёмка і прыкра. Выставілі, нават не параіўшыся са мною, нават не паставіўшы да ведама.

**– А вы параілі б не выстаўляць?**

– Не ведаю. Я не ведаю, як бы сябе паводзіў. Звычайна па жыцці я іду як фаталіст – што адбываецца, тое і павінна адбыцца. Раз яно адбылося, значыць, так і павінна быць.

**– Вы ж ведаеце сваіх настаўнікаў (з іх і складалася выбарчая камісія). Вы і цяпер не здагадваецеся, хто запісаў антызаконныя патрабаванні Сташэўскага?**

– Мне не дакладвалі, я ні з кім з членаў камісіі пасля не бачыўся. Людзі ў адпачынках.

**– На запісе хтосьці звяртаецца да чыноўніка: "*Я вас вельмі паважаю, але чаму нашымі рукамі трэба рабіць гэта дзярмо?*" Гэта ваш голас?**

– Мой.

**– Колькі членаў камісіі не падпісалі сфальсіфікаваны пратакол?**

– Падняліся і выйшлі адзінаццаць чалавек. З пятнаццаці.

**– Гэта настаўнікі вашай школы?**

– Так.

**– Але потым іх подпісы ўсё ж з'явіліся пад сфальсіфікаваным пратаколам? Зноў жа пытаюся ў вас, бо ніводнага з членаў камісіі мне знайсці не ўдалося.**

– Я хацеў бы абысці гэта пытанне.

**– Вы баіцеся нейкага пераследу з боку ўлады?**

– Прызнацца, баюся. І пасаду страціць, і не толькі... Баюся за сваю маленькую дачку. Мне сапраўды страшна. Вось чаму я так сябе паводжу цяпер. Зразумейце мяне... Зрабіць могуць усё, што заўгодна... Мы ж гэта ведаем...

**– Як вы лічыце, нешта падобнае магло адбывацца на іншых выбарчых участках? Прынамсі, у вашым горадзе?**

– Давайце зададзім сабе такое пытанне. Калі не памыляюся, восемдзесят пяць пратаколаў па ўсёй краіне, таксама як і "мой", былі, скажам так, асветлены. Што з тымі пратаколамі? Што на тых участках? Што з тымі камісіямі? Невядома. У трох выпадках, я чуў, дырэктары школ напісалі заявы аб звальненні, але іх не падпісалі, яны пакуль працуюць. А што там далей? А ў астатніх васьмідзесяці двух выпадках што? Пратаколы перападпісалі ці не?

**– А чаму вы ўсё ж перападпісалі? Вас угаварыў той жа Сташэўскі? Пазней, на нейкай канфідэнцыяльнай сустрэчы?**

– Я не магу расказаць, як мяне ўгаварылі. Сустрэч з ім у мяне пазней не было. Усё адбылося там жа. Ужо не так прылюдна, канешне, але...

**– Раней вы казалі, што некаторыя СМІ напісалі пра здарэнне ў вашай школе неаб'ектыўна. Чым канкрэтна вы не задаволены?**

– Ды пачалі перапісваць усе, каму не лянота. Журналістам, я шчыра скажу, даваў такія абцякальныя адказы. Але яны ўсё падалі так, як ім хацелася. Пакацілася ўсё, як снежны камяк з гары. Калі ўжо ўкраінскія і расійскія СМІ зацікавіліся… Былі абвінавачванні ў тым, што мне заплацілі… Таму я сам сабе сказаў: хопіць! Нікому нічога казаць больш не буду. Зразумейце мяне, я дырэктар школы, а не рэвалюцыянер.

У кабінет Сяргея Піталенкі мы яшчэ вернемся. Ужо з менш няёмкім адчуваннем, чым перад інтэрв'ю, на якое мой суразмоўца ўсё ж адважыўся. Дзякуй яму за гэта! Думаю, чытачы "Народнай Волі" разумеюць, што ў дадзенай сітуацыі дырэктар школы праявіў пэўную мужнасць.

Чарговым разам не дазваніўшыся да асноўнага фігуранта "віцебскай справы" Сташэўскага, я набраў нумар больш высокага начальніка – намесніка старшыні Віцебскага гарвыканкама **Віктара Глушына**. Нечакана ён мне адказаў. Прычым на добрай беларускай мове.

**– Віктар Валер'евіч, вы ж, напэўна, чулі пра тое, што адбылося ў СШ №44 9 жніўня?**

– Чуў. Але, відаць, не больш, чым вы. І бачыў – тое, што выстаўлена ў інтэрнэце.

**– Дазвольце не паверыць, што вы, займаючы гэткую пасаду, такі малаінфармаваны. Таму стаўлю пытанне рубам: чаму віцебская ўладная вертыкаль самым брутальным чынам умешвалася ў выбарчы працэс? Вы ж ведаеце, што фальсіфікацыя пратаколаў – гэта крымінальная адказнасць.**

– Ваша пытанне правакацыйнае. Я вам скажу, што вертыкаль гарвыканкама ні ў што не ўмешваецца. Больш тлумачыць не буду. Трэба пытанні задаваць правільна. І калі вы ведаеце Выбарчы кодэкс, то можаце там пачытаць, якую ролю адыгрывае гарвыканкам. Паўтаруся: я ведаю па гэтай сітуацыі роўна тое ж, што і вы. Чытаў у інтэрнэце, слухаў. У вас ёсць доказы, што гэта сапраўдная інфармацыя? Вы кампетэнтны орган, каб гэта сцвярджаць? Я, напрыклад, не. І нічога вам патлумачыць не магу. Звяртайцеся непасрэдна да гэтага чалавека (*С. Сташэўскага.* – ***М.С.***).

**– Я спрабаваў, але вы яго ў адпачынак адпусцілі. Відаць,ператаміўся чалавек падчас выбараў...**

– Прабачце, я ў гэтай сітуацыі вам таксама нічога не патлумачу. Каб нешта тлумачыць, трэба нешта ведаць. Калі гэта сітуацыя была… Я вам ужо сказаў, гэта не ў маёй кампетэнцыі, тлумачыць я нічога не буду.

Віктар Глушын, у чые службовыя абавязкі ўваходзіць і ідэалогія, размаўляў са мной размераным безэмацыйным голасам. Было такое ўражанне, быццам чуеш у слухаўцы савецкага радыёдыктара. Ці – размаўляеш з аўтаадказчыкам. Адчувалася вывучка БРСМ, дзе Віктар Валер'евіч даволі працяглы час займаў кіроўныя пасады і адкуль перасеў у крэсла намесніка старшыні гарвыканкама. Такія кадры ўмеюць адказаць, нічога не сказаўшы, заўсёды ў іх напагатове, як выратавальны круг, выраз "гэта не ў маёй кампетэнцыі".

"Не ў кампетэнцыі" спадара Глушына, як высветлілася падчас нашай размовы, і той тапанімічны кавардак у цэнтры Віцебска, дзе ўсе турысты, як у лесе, блукаюць на трох вуліцах імя Бебеля, на пяці імя Свярдлова і ажно на дзесяці вуліцах, якім ні з пушчы ні з поля нададзена імя Надзеі Крупскай…

За два гады знаходжання на адказнай гарвыканкамаўскай пасадзе Віктару Глушыну і ў галаву не прыйшло у прадугледжаным заканадаўствам парадку "забраць" у савецкіх дзеячаў па вуліцы, пераназваўшы іх у гонар знакамітых сыноў Віцебшчыны – Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна. "Не ў маёй кампетэнцыі", – гучала, як мантра.

Са школы №44 (паспяховай, са школай-пабрацімам у Пекіне, з адзіным у Беларусі адкрытым непасрэдна з кітайцамі класам Канфуцыя, дзе вывучаецца кітайская мова і дзеткі займаюцца ушу) я сыходзіў з прыкрым пачуццём. Праехаўшы трыста кіламетраў дзеля шчырай і адкрытай размовы з чалавекам, які спрабаваў супрацьстаяць антызаконным дзеянням упэўненага ў сваёй беспакаранасці чыноўніка, і – пачуць стрыманыя, як на допыце, адказы. Але ўсё ж такі я іх пачуў. Насуперак рэкамендацыям зверху, пасля якіх, як паказваюць падзеі апошніх дзён, можа адбыцца ўсё, што заўгодна. Усю Беларусь на гэтым тыдні шакіравала раптоўная смерць пры загадкавых абставінах 29-гадовага дырэктара Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея **Канстанціна Шышмакова**. Ён таксама быў старшынёй выбарчай камісіі, дзе не ўсе члены пагадзіліся падпісаць сфальсіфікаваны пратакол.

Пасля трагічнага здарэння ў Ваўкавыску у сацыяльных сетках зноў замільгацела словазлучэнне "эскадроны смерці", прызабытае ўжо за апошнія два дзясяткі гадоў. А ўпершыню пра такі "эскадрон" напісаў яшчэ Уладзімір Караткевіч. Помніце – "дзікае паляванне караля Стаха" ў аднайменнай аповесці? Як маёнтак Балотныя Яліны доўгія гады жыў у жудасным здранцвенні, як вершнікі смерці палявалі на людзей, забівалі іх, а праваахоўнікі ніяк не маглі натрапіць на след забойцаў. І толькі калі паўстаў увесь навакольны люд, кароль Стах быў развянчаны і знішчаны.

Караткевіч невыпадкова так назваў свайго антыгероя – Стах (сугучна слову "страх"). Пісьменнік нібы прадбачыў падзеі 2020 года, калі па Беларусі зноў затупацела капытамі дзікае паляванне караля Страху. Яно то дзікае і гіклівае, як арда, то ціхае, як начныя варанкі ў 1937-м. І ціхае яшчэ больш страхотлівае і небяспечнае.

Але Беларусь – ужо даўно не Балотныя Яліны. Калі насустрач д'ябальскаму паляванню караля Страху бясстрашна выйдзе ўвесь беларускі народ (а ён ужо выйшаў і працягвае выходзіць), то неўзабаве мы ўсе пабачым, што вершнікі, якія наганялі жудасць на ўсю ваколіцу, – усяго толькі саламяныя пудзілы. І дарога ім адна – на крумкачыны сметнік.

**Міхась СКОБЛА.**
*Мінск – Віцебск.*

НА ЗЛОБУ ДНЯ

# Новые выборы – при международном контроле

Белорусский политический кризис требует простого и действенного решения: **проведения свободных выборов в соответствии с международными стандартами. Причем не только президента. Парламента и местных Советов также.**

Возникает вопрос: кто и как будет их проводить? Естественно, не те люди, которые фальсифицировали итоги народных голосований десятилетиями. И не по процедуре, выгодной только одной конкретной стороне.

Нам потребуется такая организация выборов, к которой с точки зрения объективности не будет никаких претензий. Необходимым условием, по моему мнению, является проведение выборов по международным стандартам при прямой их организации и контроле за ходом проведения со стороны авторитетных международных игроков: ООН, ОБСЕ, Евросоюза.

Для поддержания порядка на период электоральной кампании и в поствыборный период в Беларуси должна быть развернута краткосрочная, до полугода, полицейская миссия ООН. Контингенты должны быть представлены европейскими странами, не граничащими с нашим государством. Мандат такой миссии должен ограничиваться только поддержанием порядка на избирательных участках, охраной бюллетеней и документов о результате голосования. Белорусским правоохранителям должно быть запрещено вообще появляться на избирательных участках, кроме как для участия в голосовании.

Естественно, будут недовольные ходом и результатами выборов. Для разрешения таких споров существует суд. Проблема в том, что судебная власть в нашей стране дискредитирована полностью своим пособничеством и политическим репрессиям, и фальсификациям выборов. Поэтому как часть электорального процесса белорусские суды должны быть исключены полностью.

Выборные споры должны рассматривать специально созданные на необходимый период международные суды под эгидой ООН.

Для равного допуска к государственным СМИ всех политических сил страны до выработки адекватных правил на национальном уровне должны быть назначены международные администраторы финансируемых из бюджета медиа. Которые и будут этот доступ организовывать. Любые манипулятивные, пропагандистские, раздувающие вражду и ненависть материалы в государственных СМИ должны быть исключены.

Международное присутствие должно быть свернуто в течение месяца-двух после избрания всех органов власти…

На самом деле описанная схема не является чем-то особенно новым. Международные суды, международная администрация и полицейские миссии – это то, с чем международное сообщество имеет дело в течение десятилетий. Другое дело, что практиковалось это в основном в странах третьего мира, которые находились в состоянии внутреннего вооруженного конфликта.

У нас нет внутреннего конфликта, у нас есть противостояние одного пожилого чиновника с 9,4 миллиона граждан Беларуси. Но нам потребуется полное доверие к правомочности решений вновь избранных властей. Потому как после выборов им предстоит разгребать то, что оставит после себя уходящий режим. И будет эта работа нелегкой, связанной с использованием непопулярных мер.

**Андрей ПОРОТНИКОВ, эксперт, руководитель проекта BelarusSecurityBlog.**

МУЖСКОЙ РАЗГОВОР

# Снимите балаклаву, посмотрите нам в лицо…

*Александра Полосмака задержали 11 августа в Гомеле во время акций протеста. Вот его публикация.*

…Примерно через полчаса прогулки по центру города к группе таких, как я, подлетел автозак, из него выскочили омоновцы и без разговоров начали лупить нас дубинками. Чем, между прочим, тоже нарушили действующее законодательство, так как обязаны были предупредить о применении физической силы. Ну, да черт с ним, может, и предупреждали, да мы не услышали.

От ударов человеку свойственно либо отбиваться, либо убегать – такова природа. Когда тебе не дают времени на принятие решения, действуешь на инстинктах. Я побежал. Но недалеко. Прилетело дубинкой по «тормозам» – и тут я понял, почему эти мышцы бедра так в народе называются. Потом дубинкой приложились еще пару раз, чтобы бегать было уже точно неповадно. «Ладно, – говорю, – сдаюсь, мужики! Где ваш автозак? Сам пойду, тащить не надо». И, в принципе, на этих мужиков я не в обиде. Ну, применили спецсредства при задержании. Бывает.

В автозаке ни меня, ни кого-либо при мне не били. Отзывались о нас, «змагарах», конечно, нелестно, но давайте начистоту: редко какой суровый мужской разговор обходится без мата. Суть его – ниже. Пока же нас перегрузили в УАЗик и повезли оформлять в Железнодорожный РОВД Гомеля. И вот там началось…




Заезжаем во внутренний дворик. Двери открываются. «Коридор» из закованных в «латы» существ (не могу сказать «людей») с дубинками. «Руки за спину! Голову вниз!» Со всех сторон удары. «Голову ниже!» – прилетает по затылку сверху. Через секунду – коленом в челюсть. Голова подлетает вверх. «Я сказал, ниже, с***ка!» – снова удар сверху. И снова снизу. Снова подлетает. Опять сверху. И ржут, как кони, – смешно им, как здорово придумали.

Лестница. Тут аттракцион такой, что тобой нужно задеть максимальное количество ее элементов – об перила, об стену, об косяк… Спортзал. «На колени! Руки за голову!» Не успеваешь эти самые руки туда завести, как падаешь лицом в пол. Град ударов со всех сторон, ногами, дубинками. Чаще всего – по «пятой точке», но вообще – куда попадет. Голову припечатали берцем к полу. «Это тебе за минских пацанов, с***ка!»

А теперь, пацаны, давайте по-мужски. Чисто по-пацански, если вам так угодно. Отвечаем за базар. Я ваших минских товарищей пальцем не трогал. И никто из гомельских ребят, лежавших рядом со мной до утра «мордой в пол» и на каждый вопрос, можно ли воды или в туалет, получавших ответ дубинками, тоже не трогал. Половина из них вообще мимо шла. По-мужски это – «наказывать» невиновных, если не смог дотянуться до тех, кто тебя обидел? По-мужски – бить одного толпой? По-мужски – использовать палки против тех, кто с голыми руками да еще и за спиной? Этому вас в детстве старшие во дворе учили?

Теперь взрослые вопросы к дядям в погонах, сидевшим за столами и наблюдавшим за избиениями и издевательствами. Говорите, вы защищаете не режим, а закон? Так почему же ни один из вас даже не попытался пресечь творящееся на ваших глазах нарушение части 3 статьи 426 УК РБ? Где ваш профессионализм? Где офицерская честь? Где в памяти потерялись слова присяги?

У вас приказ? Так знаете же, как надо действовать в случае получения преступного приказа. Ты, как говорится, или крест сними, или трусы надень. У вас профессиональная деформация? Привыкли быть жесткими, потому что перед вами обычно матерые уголовники? Не смешите! Матерые вам не чаще раза в год попадаются, остальное – мелочь, бытовуха. Плавали, знаем. Об этом я вначале говорил.

И в чем реальная причина, я тоже знаю. Вы боитесь. Именно поэтому вы прячетесь за балаклавами. Именно поэтому так внимательно изучаете фото в телефонах задержанных – чтобы вас не вычислили.

– Ты мне угрожай! Я никого не боюсь! – говорил мне омоновец в автозаке. – Но угрожают же потом женам, детям.

– Ну, это, конечно, не дело, – отвечал я ему. И не потому, что рисковал получить лишний раз по печени. Потому что это реально не по-человечески.

И я призываю всех, кто так делает, немедленно прекратить. Понимаю, накипело. Но давайте, несмотря ни на что, цивилизовано. По-мужски. По-джентльменски. Давайте покажем им пример, как быть великодушными.

И мудрыми. Они, к сожалению, не понимают, что гоняться за людьми по городу, запихивая их в автозаки, составлять протоколы, судить, конвоировать, разносить баланду на ИВС вместо их законных выходных их заставляем не мы, а действующая власть. Вот и злятся. Они реально верят в то, что нам кто-то платит за митинги по 30 рублей. Просто потому, что не понимают абстрактной категории «Свобода». Не тому их учили.

Но я уверен, положа руку на сердце, большинство из них согласится, что сила и смелость – не в том, чтобы толпой бить беззащитных и врать. Они – в том, чтобы снять балаклаву, посмотреть оппоненту в глаза и признать, что был неправ. В том, чтобы извиниться. Не тогда, когда уже к стенке прижали и деваться некуда, а самому, первому. И в том, чтобы простить. Вот это – настоящие мужские поступки.

**P.S.** *Сегодня я иду подавать заявление в прокуратуру. При этом надо мной висят семь «недосиженных» суток. Если я не вернусь, значит, меня не услышали и не поняли. Значит, не считайте их больше мужчинами.*

